# НЁМАН

ЛІТАРАТУРНА - МАСТАЦКА - НАВУКОВЫ МЕСЯЧНІК.

1932. ЛЮТЫ. 1932.

| Кніжка II | Адрэс Рэдакцыі: Вільня, Кальварыйская вуліца 53, 2. | Падпіска на год . . 7 зал. На паўгоду . . . 4 зал. На 3 месяцы . . . 2 зал. Адна кніжка . . 70 гр. |
|---|---|---|



НАТАЛЬЛЯ АРСЕНЬНЕВА.

## На парозе.

На парозе ночы затрымаўся дзень...
Дзень ціхі, зімовы,
Спавіты ў лільлёвы
Далікатны цень...
І хоць вабіць неба хварбай залатою,
І хоць зьзяюць хмаркі рожавым агнём,—
Цяжка разьвітацца з сонечным сьвятлом,
Цяжка спавівацца ночы туманом:
Бо здаецца сонца дарагім бясконца,
Бо жыцьцё здаецца проста без цаны
І жудой халоднай у чужой старонцы
Выдаюцца чорнай ночы туманы...
Гэтак перад сьмерцяй сэрца замірае
Пры́ адзінай думцы, што ідзе... туды,...
Хоць само і рвецца,
Ў край, што сном завецца,
Хоць смуціцца, б'ецца,
Каб як адляцецца
Ад жыцьцёвых мукаў, ад цяжкой нуды...
Адляцець... туды...

1926.

М. МАШАРА.

* * *

Я — сьвятляк начы маёвай,
Ручаёк мужыцкай мовы!
Ўздымам п'яны,
Бесталковы,
Закаханы
Ў родным слове.
Я — падучая зарніца
Мне красе толькі-б маліцца,
Што ў снох сьніцца,
Што бясконца
Так ірдзіцца
Ў косках сонца
Па зямліцы.
Я — паўстаў з цямры і плесьні
І згарэць хачу у песьні.
У той песьні,
Што сьпявае
Вецер вольны
На прадвесьні
Новай долі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ты мне многа дала маць - зямліца:
Агонь сэрца і жар пачуцьця,
Што як сьвечка ахвярная йрдзіцца
Перад дзіўнаю тайнай жыцьця.
Ў маім целе юнацкім я чую
Увесь творчы разгул тваіх сіл,
Ўсе імкненьні... тугу векавую
Ад пачатку, — да цемры магіл.

## Пэгас.

(З астрожных настрояў).

Ціха шэпчыць казку чараў
Ноч марозным бліскам зор,
Сноў салодкі на абшары
Расьсявае нагавор.

Ціха ўсюды... ў задуменьню,
Змрок заплёўшы косы-цені,
Быццам злодзей ўпоўз да „цэлі...“
Дам прастор я лятуценьню:

Гэй! мой конь, распраў-жа крылы!
Ўзмах адзін і нас няма,
Шлях знаёмы — зноў над нівы,
Зноў да вёскі і сяла.

Вёска сьпіць... а падарожны
Вецер шэпчыць ей наўхо,
Прадсьвітальны сказ трывожны, —
Пра раздольле, пра жыцьцё.

І расьце, расьце трывога,
Траціць, траціць сон спакой;
Сьніцца вёсцы перамога
Над нядоляй, над цямрой.

Вось і хата майго бацькі,
Сумам вее ад яе,
Ў вокнах лунь, — то вочы маткі
Тужаць бедныя па мне.

Знаю, часта ўдаль нямую
Матка шле з пытаньнем ўзрок:
— За віну, віну якую?
— Бедны, бедны мой сынок!..

Ўсё таксама... — пры дарозе
Клён... вярбіна пад акном,
Тут, бывала, на парозе
Лічыў зоры вечарком.

Сьніў аб долі хатак шэрых,
Сьніў аб радасьці жыцьця;
Разважаў над сэнсам дзеяў
Вечна мудрага быцьця.

Месяц плыў у задуменьню,
Часта моўчкі над вярбой
І ківаў мне клёну ценьню,
Быццам бацька барадой.

Ўсё даўно прайшло і зьнікла,
Шчэзла быццам рэха-звон.
Эх, жыцьцё, мо' сон ты звыклы?
Навет часам цяжкі сон!

Гэй-жа конь! хутчэй крылаты,
Ня спыняй свой борзды бег,
Чуеш, дзесь пяюць дзяўчаты,
Дзесь зьвініць іх срыбны сьмех.

Знаю, знаю... то-ж паседкі, —
Радасьць моладзі зімой.
Сьпяць старыя... хлопцы й дзеўкі
Быццам лён прадуць начой.

Ах, як ўсё мне тут знаёма!
Гэты шум і сьмеху звон,
І нядзіва — тут я дома, —
Ўсё другое, — гэта — сон.

Гэй, назад! мой конь крылаты,
Ды ня конь, а проста зьвер,
Зьвер заежджаны, кудлаты, —
Чорт сюды занёс цяпер!

Доўга ўсім служыў, як трэба,
Ўсіх вазіў ты на Парнас,
А са мной ня хочыш ў неба,
Эх, Пэгас, ты мой, Пэгас!

Кожну ноч мяне з за краты
Цягнеш дробнаю трусой;
Ўсё да вёскі й роднай хаты,
Нюхам чуеш, гад праклятты,
Дзе мой сум і боль з тугой.

Астрог „Лукішкі". 10.II.29 г.

* * *

Плюйся, ветер, охапками листьев,
Я такой же как ты хулиган.

*С. Есенин.*

*(З астрожных настрояў).*

Месяц рог свой павесіў на краце,
Неба поўнае зьзяючых блох,
Як даўней — і ў „бацькавай хаце“,
Я той самы задзёра і жох.

Годзе твар прыбіраць у рахманасьць,
Годзе скромнасьць у песьнях жаваць:
Чую ў сэрцы бунтарную радасьць,
Як хто гыркне — на ўсё напляваць.

Ня зьлізала ўсю накіп задору
У душы мудрасьць крадзеных слоў,
Па старому жыву без разбору,
Веру толькі у сілу клыкоў.

Многа цемры у сьвеце й пакуты,
Шчыра толькі, адзін я шчасьліў,
Сваіх думак ружовыя путы
Я бяз жалю аб краты разьбіў.

Толькі Ты, мая Матка - Краіна,
Радасьць песьціш у сэрцы адна;
Ні зашто Тваю жудзь не спакіну,
Буду піць з Табой чарку да дна.

1.XII.28.

М. ВАСІЛЁК.

# Ці прамяняю я?..

Цыганскі колер босых ног
Так гарманюе ў цяжкай працы...
Гэй, ты раскошы чорны бог —
Гэй, пышныя муры - палацы!
Сын працы я — ці прамяняю вас
На гэты подзьмух ветрыка, што ў полі
Цалуе твар мой і расхрыстаныя грудзі?
— Ніколі!
А вы, вы сьпешчаныя людзі;
Жыцьця падгнілага пакорныя рабы!
Вам гора што?—вам сьвеціць шчасьце ўсюды.
За залаты мэталь, ах лёгка як здабыць
Выгоды райскія прыгожасьці і цуды...
Пад гучны танга зык — спраўляеце забавы,
Вы слаўныя... прытульна вам — цяпло...
Ці прамяняю я на горы вашай славы,
На вашы роскашы, на шчасьцьце, што як шкло?
Ці прамяняю я кут роднай старой хаты,
Кавалак хлеба чорнага і лыжку буракоў,
Што я запрацаваў крывавым сваім потам...
На мілы родны бор, што ад вякоў
Нам грае гымны шчасцьця лепшых дзён;
Змаганьню вучыць нас за ўласнае жыцьцё —
Каб цьвіў уродай вузенькі загон,
Ці прамяняю я за гэта ўсё?
— Ніколі!!!
Што-ж, грайце весялей, ударце ў бубны сьмела,
Глушэцця ў сабе згук плюгавасьці й спагуды.
Праб'е ваш кону час — працоўны голас люду
Гране вам марш хаўтурны душою набалелай!

# Моладасьць.

Моладасьць, моладасьць, зорачка цьмяная;
Поля жыцьцёвага краска вясьняная!
З сумам гляджу я як ты адцьвітаеш.
Што-ж для душы ты мае пакідаеш?
Што?.. можа песьню аб шчасьцi забытым?
Можа ўспамiн аб нядбайным жыцьцi тым —
Калi юнацкiмi пышнымi днямi
Ты мне сьвяцiла надзеi агнямi?
Мiлая моладасьць, годзе, скажы-жа ты
Чым правiнiўся, што болям нявыжытым —
Болям няпрошаным грудзi стамiла,
У вочы мае глядзiш цёмнай магiлай...
Ты адцьвiтаеш, хоць жыў так нямнога я,
Шкода цябе мая госьцейка ўбогая —
Шчасьцьця бунтарнага сонцам сагрэтая,
Рожа адцьвiлая, песьня нясьпетая...
Шэрага шляху сьцяжынкi цярнёвыя
Думкай дакучнай праходжу нанова я.
Зноў праглядаю пажоўклыя лiсьцьi...
Браў з iх уцеху жыцьця я калiсьцi,
Зноў прад вачыма крынiчкi жывыя:
Сiлы разгульныя — днi маладыя...
Колькi-ж, ах колькi часiн пахавана
Ў гэтым палёгшым на прошласьць тумане...
Колькi надзей сьветазарных а мiлых,
Моладасьць, ў сэрцы маiм ты будзiла.
Зьнiкла ўсё, шчэзла... бывай-жа вясна мая!
Гасьнеш на векi ты зорачка цьмяная.
Выбач што мала дарыў табе ўцехi —
Лёс мой пануры таму быў памехай...
Шляхам хоць розным ў жыцьцi паступова
Ўсе мы збліжаемся к вечнаму схову...
Iмпат змаганьня, жыцьцёвыя мэты,
Шчэзнуць туманам ў прасторы сусьвету.
А нагарода iмкненьням жаданым,
Стане над наспай нам крыжам драўляным.

в. Баброўня. 1932 г.



Пётра Сяргіевіч. Рысунак.

## ХВЕДАР ІЛЬЛЯШЭВІЧ.

* * *

Гарады, гарады Беларусі —
Заіскрыцеся ў вершы ізноў...
Мы вяслуем у мглістай задусе
Да блакітных тваіх берагоў...

Неба зрэзана — быццам паперка,
Дахі ў неба растуць наўкруг...

У вачох калышуцца мерна
Электрычныя зоры й рух...

Кірмашы — перапевы вуліц
Льлюць у сэрца хмельны гам,
У паветры на ноч заснулі
Шматкалёрныя цені лямп...

Астравы — агнявокія месты—
А навокал імглістая даль...
Сьпеў наш ціхі, далёкі — плывеш ты
І калышашся сярод хваль...

1932.

Р. ЗЕМКЕВІЧ.

# Ян Няслухоўскі (Янка Лучына) і яго няведамыя вершы.

Індывідуальнасьць беларускага поэты Яна Няслухоўскага з боку літаратурнага ня была блізу што зусім адмалявана ў беларускай літаратурнай крытыцы. Выдатны лірык, поэта з Божае ласкі, ня можа ня вабіць нас сваёй красою, мастацтвам формы і асаблівай поэтычнай мякчынёй. Працуючы ў часе дзікой, зоолёгічнай расейскай рэакцыі ў чыноўніцка-бюракратычным Менску, дзе як адміністрацыйная ўлада, так і духавенства душылі ўсё нацыянальна-беларускае, перанёс ён на сабе ўвесь цяжар зьдзеку і ўціску над беларускім словам.

Праца Няслухоўскага ў беларускім гуртку, які тады існаваў у Менску і хацеў вясьці нацыянальную беларускую работу, была надта выдатнай і сваёй душэўнай гарачынёю, захопліваючай нават другіх менш сьвядомых Беларусаў. Сьмела можна сказаць, што ў гэтым Менскім беларускім гуртку, да каторага належылі такія сілы, як выдатны вучоны М. Даўнар-Запольскі, інжынер А. Слупскі, археолёг Г. Татур, этнограф П. Дзямідовіч і многія іншыя, найсільнейшым індывідуальна ў выяўленьні беларускае нацыянальнасьці, быў наш поэта, Янка Лучына, як ён сам сябе назваў. Ён галоўна і распаліў лучынку нацыянальнае сьвядомасьці і, працуючы ў беларускім гуртку, даў моцную аснову на-

цыянальнай беларускай кузьні, з каторай і выйшлі пасьля моцныя й сьвядомыя дзеячы, як браты Луцкевічы, Каганец, рэдактар Уласаў і інш.

Дзеяльнасьць Нявлухоўскага ў Менску абмежыць можна гадамі 1885 да 1895. Праца яго ў расейскай газэце „Минскій Листокъ" ды пры выдавецтве календароў „Сѣверо-Западнаго Края", ясна сьведчыць аб яго стараньнях уводзіць у мясцовыя органы пэрыядычнага друку творы ў чыста беларускай мове. Даволі будзе ўважна парагледзіць гадавікі календароў „Сѣверо-Западнаго Края", гадавікі газэтаў як „Минскій Листокъ" ды „Сѣверо-Западное Слово", дзе пабеларуску друкаваліся творы Янкі Лучыны, К. Каганца і іншых, каб прадставіць ясна гэтую беларускую нацыянальную імпульсыўнасьць у здабываньню сабе грунту. Ужо ў 1890 годзе па пачыну Янкі Лучыны рабіліся захады, каб выдаваць беларускую газэту. Але ўсе гэтыя стараньні былі зацiснуты срогаю забаронаю мясцовага ўрадніцтва. Паўночны вецер „сівер" замаразіў усе нацыянальныя імкненьні ды ўсе краскі новага нацыянальнага пісьменства беларускага, што ў той час так хораша закрасавалі. Навет спробы друку й цэнзураваньня „Календароў" у Маскве ці Петраградзе не далі магчымасьці, каб абмінуць перашкоды й забарон друку, робленыя менскімі процібеларускімі ўладамі. Усе надзеі з болям у сэрцу трэба было пакінуць ды чакаць лепшых, сьвятлейшых дзён!..

Не пашанцавала Няслухоўскаму пабачыць за жыцьця свае творы ў васобнай кніжачцы...

Тое, што наш поэта надрукаваў пабеларуску ў календарох ды газэтах, а такжа й творы рукапісныя, не ўвайшло ў гатовы ўжо раней да друку зборнічак вершаў „Вязанка", выдадзены па сьмерці поэты контрабандай, як творы быццам у баўгарскай мове (дзеля ашуканьня расейскае цэнзуры) ў Пецярбурзе 1903 году. Кніжачка „Вязанка" была прыгатавана да друку самым аўтарам яшчэ за жыцьця, выдаўжа яе пасьля сьмерці яго ведамы беларускі дзяяч, сьв. памяці Іван Луцкевіч.

Адзначыць мусім надта важны факт: зборнічак „Вязанка" зьяўляецца першай кніжкай друкаванай пабеларуску ў пачатку XX стагодзьдзя і мае не абы якую заслугу ў шырэньню беларускае нацыянальнае сьвядомасьці. Гэта была першая ластаўка беларускага запраўднага адраджэньня, за каторую хутка пайшлі й іншыя, пакуль не настаў 1905 год, ад якога беларускае адраджэньне стае ўжо на цьвёрды, нармальны шлях свайго безупыннага разьвіцьця, набіраючы ўсё больш і больш сілы й разгону.

Ян Няслухоўскі пісаў і друкаваў свае вершы ня толькі пабеларуску, але й папольску ды навет і... парасейску. Узгадаваны сярод польскае сям'і ў Менску, поэта наш шмат нацярпеўся дакораў ад сваей блізкой радні, каторай ня ўсмак былі яго беларускія творы. Найгоршымі тут варагàмі яго былі жанкі. Яркім довадам гэтае ненавісьці навет па сьмерці поэты можа служыць факт, што калі да пані Рачкевічыхі, ураджонай Няслухоўскай *), у 1918 годзе ў Менску зьвярнуўся адзін з беларускіх пісьменьнікаў, каб пазволіла прагледзіць захаваную ў яе асабістую літаратурную перапіску поэты, яна спачатку згадзілася і дала слова, назначыўшы навет дзень для перагляду ўсіх захаваных памяткаў свайго роднага дзядзькі. Пасьля, калі даведалася, што гэта можа быць выкарыстана для беларускае літаратуры, уважаючы гэта за скандал для шляхоцкага роду Няслухоўскіх, адмовілася станоўка, нат' іх паказаць. Усё гэта кідае лішне ўжо характэрна сьвятло на тое, у якіх варунках сярод сваіх блізкіх прыходзілася працаваць нашаму поэту...

Калі можна гаварыць аб якім уплыве на літаратурную творчасьць поэты, дык трэба прыраўнаваць яго вершы да твораў Сыракомлявых і Некрасава, каторых наш поэта вельмі любіў і трымаў заўсёды пад рукою на бібліятэчнай паліцы. Трэба аднак ведаць, што як у беларускіх, так і ў польскіх сваіх вершах, Няслухоўскі выявіўся як зусім арыгінальная ды індывідуальная адзінка, вершы каторага друкаваліся навет у надта сур'езных і з вялікімі вымаганьнямі што да чыстае поэзіі польскіх мастацкіх тыднявікох. У польскую літаратуру ўвёў Яна Няслухоўскага выдатны польскі поэта і выдатны эстэт Мірыям (Зэнон Прасмыцкі), друкуючы ў мастацкім тыднявіку „Życie" (Варшава 1887—1888) першыя польскія творы нашага поэты.

З беларускай адраджэнскай працай Мацея Бурачка пазнаёміўся Янка Лучына ўжо пад канец свайго жыцьця і пачаў тады з ім ліставую перапіску (на жаль бліжэй нам дагэтуль няведамую), аднак у рукапісных творах поэты нічога няма такога, што так ці сяк прыпаміналa-б нам аб якімколечы літаратурным уплыве Бурачка.

Вялікае ўражаньне (даймо) на Няслухоўскага зрабіла жывое слова са сцэны ў украінскай мове. Захоплены народным украінскім тэатрам трупы ведамага Старыцкага, поэта наш у 1887 годзе зьвярнуўся да яго з вершам. Верш гэты вельмі характэрны й цікавы падаём тутака ў цэласьці.

---

*) Жонка маршалкі Польскага Сэнату Ўл. Рачкевіча, этаго самаго Рачкевіча, каторы ў 1940-1946 гадох быў „прэзыдэнтам" польскага эміграцыйнага правіцельства у Лондоне.

1950. I. 10 г. [signature]

# Усей трупе Дабрадзея Старыцкага Беларускае Слова.

Дзякую Вам, Брацікі, Сястрыцы родныя!
За Вашы хвацкія песьні народныя,
За тую гутарку Вашу вясковую,
За праўду сьветлую, за праўду новую!
Даўно мы ня чулі братняга голасу,
І ніва нашая колас па коласу
Ветрам разьвеяна, градам разьбітая
Стаіць бяздольная, Богам забытая...
Ці то над Нёманам, ці то над Шчараю,
Ці над Дняпроўскай затокай стараю,
Ўсюды падобныя, усюды знаёмыя
Сказкі і песьні ветрам нясомыя.
Ўсюды сустрэнуць з хлебам і сольлю
І з добрым словам і са сьлязамі
Песьню сьвятую, пісану больлю,
Ўсюды ахвотна пойдуць за Вамі.
Братцы, Сястрыцы! — праўды нясыта
Маці - Зямліца! ой! *не забыта*
*Роднага слова сьвятая сіла!...*
Ёю гаворыць усюды — магіла!
*Не-ж паслышыць наша старонка!*
Сьпявайце-ж, Братцы, сьмела і звонка:
Ня згіне песьня і Украіна!
Будзьце здаровы!

Менск 1887. *Янка Лучына.*

Гэткія думкі выклікаў у Няслухоўскага ўкраінскі тэатр у Менску. Што ўкраінскі тэатр рабіў адраджэньне ня толькі на Украіне, а будзіў ад сну да жыцьця й паняволеную Беларусь, аб тым ніхто ў нас не дагадаваўся. Аднак гэтая старонка ўкраінскага ўплыву на адраджэньне Беларусі не падлягае ніякаму сумляваньню. На нашае пытаньня К. Каганцу, што яго пабудзіла пісаць для сцэны, ён нам коратка і ёмка адказаў: Украінцы! Тое самае адказаў У. Галубок.

Якое ўражаньне рабіла гульня асобных украінскіх артыстых на Няслухоўскага, малюе ярка верш яго:

# Дабрадзею артысту Манько.

Манько хвацкі, мілы браце!
Далі Бог-жэ, ў нашай хаце
Як Ты зуха, чалавека
Не пабачыш, пакуль века.
На Цябе я усё дзіўлюся,
Ці паскачаш Ты Пятруся,
Ці надзенеш у пакрытку
Бурлакову рвану сьвітку,
Паліш люльку насагрэйку,
Ці прапаўшы за капейку,
Выручае друга з хаты,
Сабіраўся Ты ў салдаты.
Усё праўда, — шчыра слова,
Усё наша, ўсё вяскова.
За голасам, за казачым
Хоць Ты скачаш, то мы плачым.
Хіба-ж шоўшы цёмным лесам,
Ты пазнаўся з самым бесам,
І прадаўшы душу шэльме
Чараўнік Ты хітры вельме!
Цадпускаеш йшоўшы у таны
Ў вочы чары і туманы.
Мусіць, мусіць так і была!...
Ня схаваеш ў мяшку шыла.
А можа быць, браце родны,
Ня псаваў Цябе нягодны,
Толькі ў полю і ў каморы
Ты вяскова наша гора,
Ліху долю, што на ніве
Паглядзеў Ты справядліве.
Калі так, дык ўсюды браты!
Гэй! за Віслу, за Карпаты,
Ад Кралеўца да Дуная
За Табой у такт сьпявае,
Поймуць Цябе ў тваім тане
Ўсе родные, ўсе славяне.

Менск, 1887.

Упадабаўшы ўкраінскі тэатр, поэта наш задумаў стварыць нешта падобнае беларускае...

Памятуючы яшчэ з дзіцячых год беларускую бэтлейку ў Менску, Няслухоўскі зьбірае матар'ялы і робіць дакладнае апісаньне яе, сьцьвердзіўшы, што ад 30 год бэтлейка ў Менску не зьмянілася і робіць з гэтага вывады, што як ад асобаў, так і ад іх слоў вее далёкай старасьветчынай. Як відаць з рукапісу, апісаньне беларускае бэтлейкі менскае. было апрацаванае папольску для польскага этнаграфічнага трымесячніка „Wisła", друкаванай аднак гэтая праца ня была.

Спробу нейкага сцэнічнага твору Янкі Лучыны, прадстаўляе невялічкі адрывак без назову, пачатку й канца, які тутака для характэрыстыкі творчасьці поэты падаём цалком:

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

**Пiлiп.** Старасьць ня радасьць, куме! Не раўнуючы як той конь, быў дый зьезьдзіўся, так і я...

**Грыгор.** Яшчэ-ж ня саўсім зьезьдзіўся. Па том адначэ на вас, куме, старога трэба са двое маладых сягоньняшняга гатунку, каб падужалі.

**Пiлiп.** Ой не! ня тое яно!... Бывала па поў бочкі жыта, ускінуўшы на плечы, нясу, а цяперака і самога сябе часамі панясьці цяжка. Ну! на тое — век мой вялікі... Лічыце-ж што мой старшы сынок Ян пад Сівастопалям галоўку палажыў... З другое дачкі Уляны, што за Прахорам унучку, ужо гады чатыры, як замуж аддавалі. Другіх дзетак Бог забраў, а гэтыя два мае блазны... дык гэта-ж саўсім смуроды... проціў братоў, а і яны ўжо на лес гледзячы павырасталі. А ці мала на вяку ўсякага ліха перабылося?...

**Грыгор.** А ей!...

**Пiлiп.** Тое-ж то яно!... Вось і цяпер і маю тую думку, што ня жыць мне другога веку. Малады можа, а стары дык мусіць... Прызнацца, куме, не хацелася-бы сякі такі лад, што ў хаце пазаводзілі, пабачыць на старасьці лет маіх папсованым... Што-ж? падзяліўшы на двое і поля, і сенажатку, і хатку і ўсякую худобу і таму і другому— ня быць гаспадаром як мае быць... Не папнешся, калі няма на чым... От я, значыцца, і пастанавіў сабе так дзяліць маіх дзетак: аднаму здам гаспадарку, другому грашмі дам тое, што яна варта. Хочаш, купляй зямлю, будуйся, гаспадар, хочаш, за другое што бярыся... як сам ужо знаеш...

**Грыгор.** Ну, а сыны што на гэта?...

**Піліп.** От тут то і самы клопат! І той бацькаўшчыну хоча і другі... Мы, кажуць, тату, тут парасьлі, тут і жыць хочам. Каб я, значыцца, аднаго сына відзеў за што лепшае проціў другога, ну сказаў-бы, так!... і канец!— так хачу, так і будзе. Дык што-ж тут парадзіць, калі абодва, дзякаваць Богу, мае хлапцы і працавіты і ня лайдакі, і сумленны, і мяне старога і шануюць і слухаюць!...

**Грыгор.** Але-ж... гэта і мы відзім...

**Піліп.** Вось-жа, уважайце сабе, куме, які спосаб Бог мне і думцы пасылае... Ня дзіва, што і Антось і Зьмітрук у мяне слухмяныя хлапцы, бо я яшчэ і цяпер і за лоб і бізуном задам, абы што... Пабачым, як яны спраўляцца будуць па сваей волі жывучы!... Няхай-жа Антось з віцінай сходзіць аж за граніцу і раз і другі, а Зьмітрука аддам пану, ён бо, бачыце, пытаўся ў нас хлапца да гаспадаркі, аж кудысь на Украіну, казалі, ці што... Ну, няхай хлопцы сьвету пабачуць... Вось мы тагды і пабачым. (Уваходзіць Кацярына).

**Кацярына.** Што? што ты кажаш?... кабы дзяцюкоў нашых німа ведама куды пасылаць?... Ды не, ды што ты гэта!... Што ты гэта, стары, уздумаў?... Ці, дзякаваць Богу, у хаце няма куды дзецца?... ці што якое..., ці роднаму дзіцяці хлеба шкадуеш?...

**Піліп.** Ціха!... ня крычы!... бабскі твой розум, як за грош люлька!... Што-ж, на згубу ці што, альбо на век сыноў пасылаю. Дзеля іх-жа дабра і навукі, вось што! Ня бойся і зьвернуцца і нацешышся імі, і нам з табою скажуць: дзякуем! за гэта самае... Чаго раскудахталася?...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Гэты невялічкі сцэнічны адрывак паказуе, што поэта добра знаў быт нашых сялян і мог даць добрыя й праўдзівыя яго абразкі ў сцэнічных творах. Аднак цяжкая хвароба не дала, мусіць, пісаць нашаму поэце сцэнічныя творы...

Праца й творчасьць Яна Няслухоўскага мае для нас першарадную вартасьць як беларускага адраджэнца і як мастака-поэты, што ўнёс новы, арыгінальны й цэнны ўклад у скарбніцу роднага пісьменства.

*Проф. А. САВІЧ.*

# Беларускія школы ў старой Вільні.

*(у сувязі з гісторыяй культурных рухаў у Беларусі XVI — XVIII ст.).*

## Разьдзел другі.

### Так званая „рэакцыя“. Езуіты; іх роля ў васьвеце беларускае маладзежы. Езуіцкія школы ў Вільні.

(Глянь № 1 „Нёмна“).

Віленская акадэмія езуіцкая была прыраўнальна добра агледжана. Пры ёй была даволі вялікая на той час бібліётэка, што складалася з ахвяраў розных асобаў. Галоўным ядром яе стаўся кніжны фундуш, падараваны біскупам Пратасевічам; у ім было колькі тысячаў тамоў кнігаў. Жыгімонт Аўгуст падарыў акадэміі сваю замкавую бібліётэку. У далёшым часе акадэмічная бібліётэка папаўнялася новымі ахвярамі іншых асобаў: біскупаў, канонікаў віленскіх і асобаў з беларускае шляхты. Апрача віленскага біскупа Аўстаха Валовіча і Мікалая Паца, біскупа жмудзкага, шмат дарагіх кнігаў падараваў у бібліётэку маршалка беларускі („літоўскі“) Казімер-Леў-Сапега, што перадаў ёй вялікую радавую бібліётэку свайго айца, слаўнага канцлера беларускага, каторая была ў м. Ружанах (Слонімскага пав.). Гэты кніжны фундуш складаў апрычоны адзьдзел у вакадэмічнай бібліётэцы пад назовам „сапяжанскае“ бібліётэкі. У ім было 3.000 тамоў і меў ён свой апрычоны каталёг. Былі й адумысловыя фундушы, як грашавыя, так зямельныя на папаўненьне акадэмічнае бібліётэкі. Віленскія езуіты вельмі ўважна адносіліся да свайго кніжнага багацьця. У 1650 г., перад пачаткам маскоўскае вайны, віленская бібліётэта акадэмічная была вывезена ў Кенігсбэрг; у часе перавозу яе назад у Вільню было страчана колькі экзэмпляраў кнігаў... *).

---

*) ibidem, p. 35—43.

У вапошняй чэцьверці XVIII ст. культурная спадчына езуітаў перайшла пад загад Эдукацыйнае Комісіі. Развой навукова-успаможных установаў і пры ёй ішоў далей. Проф. ботанікі й прыродаведы Ян Эммануіл Гілібэрт арганізаваў паказальны гарод. Наступнік ягоны па катэдры, Юры Форстэр, падзьдзержаваў на належнай вышыні гэтую новую ўстанову; крыху пазьней доля гэтага дазнавальна-паказальнага гароду пагоршылася: ён быў запушчаны.

За тое-ж Эдукацыйнае Комісіі, пры віленскай акадэміі быў арганізаваны й зоолёгічны кабінэт (у 1781 г.). У купленым камісіяй адумысьля дзеля гэтага доме, была адлучана асобная часьць на прыродныя навукі. У 1753 г. пры акадэміі была зроблена астрономічная абсэрваторыя на грошы, ахвяраваныя Альжбетаю Агінскаю - Пузына, кашталяніхаю Мсьціслаўскаю. Арганізаваньню гэтае абсэрваторыі шмат памог ведамы Пачобут, б. загадчык яе. Пачобут, пачаўшы загадаваньне, знайшоў у вабсэрваторыі адно колькі прыладаў, прыкл., прыладу дзеля азначэньня паралякса, сонечны гадзіньнік і нек. іншыя. Усяго гэтага было, ведама, мала дзеля правільнага ходу работы ў вабсэрваторыі. Пачобут выпісаў з Парыжа яшчэ секстан (дзеля азначэньня вышыні нябесных целаў над гарызонтам) і колькі іншых астрономічных прыладаў. Яшчэ за езуітаў у віленскай акадэміі быў кабінэт экспэрымэнтальнае фізыкі і практычнае матэматыкі, але асабліва шырака ён разгарнуўся ўжо за Эдукацыйнае Комісіі, што дала на палепшаньне кабінэту 500 залатых і 2000 залатых на куплю прыладаў. Мела акадэмія й сваю друкарню, падараваную ёй віленскім ваяводам Хрыстафорам Радзівілам, званым Сіроткаю; раней гэная друкарня належыла да айца ягонага Мікалая Радзівіла Чорнага і была ў Берасьцю. Езуіты перавезьлі гэную друкарню ў Вільню і выпусьцілі з яе цэлы сьцяг кнігаў рознага зьместу. Належыла менаваная друкарня да акадэміі й за Эдукацыйнае Комісіі, а пасьлей яе купіў Завадзкі.

У часе езуітаў пры віленскай акадэміі быў так званы „collegium nobilium“ для дзяцей багатых паноў. Гэта — ня проста бурса арыстакратычнае моладзі школьнае. Відавочна, тут адумысловыя вучыцялі вялі й пэдагогічныя заняткі, вучачы мала здольных і асталых студэнтаў. Пазьней Эдукацыйная Комісія ператварыла гэтае collegium у звычайную школу, тыпу акружных з 10 вучыцельмі. Гэткім спосабам яна стала гатаваць будучых студэнтаў у вакадэмію *).

---

*) Драбязьней аб віленскай акадэміі, апрача цыт. працы І. Лукашэвіча (Historja szkół), кажуць адумысловыя монографіі, пасьвячоныя гісто-

Вуніяцкія мніхі-базыляне мясцовага Троецкага манастыра пасылалі сваіх новіцаў (першакоў, будучых мніхаў) вучыцца ў вакадэмію *). Езуіцкія школы цэлай сеткаю пакрылі тэрыторыю Беларусі й Украіны. Яны былі троха ўва ўсіх вялікшых раёнах, прыкл., у Бабруйску, Берасьцю, Драгічыне, Горадне, Менску, Магілеве, Нясьвежу, Воршы, Пінску, Полацку, Слоніме, Слуцку, Смаленску, Віцебску й Мэрачы. На Украіне езуіты мелі свае школы ў Луцку, Бары, Камен-Цадольскім, Астрозе, Ксаверове, Аўручы, Вінніцы, Кіеве, Крэменцы й Жытомеры. У працягу двух вякоў (1569—1772 г. г.) езуіцкі ордэн сконцэнтраваў у сваіх руках усю школьную справу ў Польска-Беларускім гаспадарстве. Прыродна будзе задзержыцца крыху на выясьненьню нутранае арганізацыі й праграмы езуіцкіх школаў. Трэба сказаць, што езуіцкія школы арганізаваліся паводле точна азначанага прыкладу і жадных водхінаў ад агульнаўстаноўленае ордэнскімі канстытуцыямі нормы яны не дазвалялі. Звычайна кожная езуіцкая школа дзялілася на два адзьдзелы: вышшы (studia superiora) і ніжшы (studia inperiora). Ніжшы адзьдзел складаўся з 5 клясаў: 1) infima classis grammaticae; 2) media classis grammaticae; 3) suprema classis grammaticae (aut syntaxis); 4) humanitas (aut poesis) і 5) rhetorica. У кожнай клясе вучыў адзін вучыцель, і курс вучэньня быў у кожнай клясе аднагодні з выняткам рыторычнае клясы, дзе праграма была двугодняя. У ніжшай клясе граматычнай праходзілі этымолёгію й пачатак сынтаксу. Цамогаю быў агульнапрыняты ў той час падручнік Альвараў (першая часьць яго) **). Дзеля ўкладаньня ў перакладзе раілі лёгкія адрыўкі з Цыцэрона, Корнэля Нэпота, байкі Фэдравы і нек. інш. Тутака-ж пачыналася вучэньне грэцкае граматыкі. У наступной, сярэдняй клясе граматычнай праходзілі другую часьць падручніка Альваравага. Вучыліся грэцкія скланеньні й спражэньні. Чыталі лісты Цыцэронавы, Запіскі Цэзаравы,

---

ры яе, прыкл., Baliński „Dawna Akademia Wileńska" (1579—1803) Petersburg, 1862 i Bieliński „Uniwersytet Wileński" t. I-II.

*) Аб гэтым мы знаходзім весьці ў Архивѣ Уніатскихъ Митрополитовъ („Описаніе" т. I, № 817) і ў вельмі важным рукапісным зборніку, што пераховываўся раней у рукапісным адзьдзеле Ленінградзкае Гаспадарственае бібліётэкі: „Pominnik, albo wizerunek śmiertelności ludzkiej przez opisanie wielebnych ojców y braci zmarłych celnieyszych tylko Prałatów w Zakonie S-o Bazylego W-o, począwszy od roku przeszłego tysiąc sześćset osiemdziesiąt szóstego, aż do roku terazniejszego tysiąc siedemset dwudziestego pierwszego" (Польск. Т. I, № 47).

**) Альвар — родам Гішпанец (1528—1582). Поўны назоў ягонае працы гэткі: „Emmanuelis Alvari e Societatis Iesu de institutione Grammatica libri tres". Ужываньне гэтае кнігі як падручніка ў езуіцкіх школах было загадана ордэнскімі канстытуцыямі.

Овідзія (выбраныя месцы), пагрэцку чыталі байкі Эзопавы. У вышшай клясе граматычнай канчалі курс граматыкі, сынтаксу і вучыліся просодыю. Палацінску чыталі гэткіх клясыкаў: Цыцэрона, Лівія, Салюсьця, Овідзія, Катула, Тыбула, Пропэрца й Віргіля. Канчалі грэцкую граматыку й сынтакс; чыталі Эзопа й творы Залатавуснавы.

У клясе чацьвертай вучняў вучылі прозаічнага й поэтычнага мастацтва лацінскае мовы. Тутака-ж праходзілі й некаторыя ўспаможныя навукі: гісторыю, мітолёгію, географію й археолёгію. Чыталі прамовы Цыцэронавы, Цэзаравы, Салюсьцевы, Лівіевы, Курцавы, Віргілевы, Горацавы (выбраныя оды) ды іншых поэтаў. З грэцкіх аўтараў вучыліся Плятона, Плютарха, Фукідыда і некаторых айцоў царквы.

У рыторычнай клясе вучылі тэорыю красамоўства, стылістыку і ўспаможныя навукі. Як прыклад аратарскага мастацтва радзілі творы Цыцэронавы і рыторыку ды поэтыку Арыстотэлеву. Дзеля ўкладаньня ў грэцкім языццэ давалі Дэмостэна, Плятона, Фукідыда, Гомэра, Гезыода, Піндара і інш. клясыкаў ды чыталі адрыўкі з літаратуры айцоў царквы. Мэтаю вучэньня ў езуіцкіх школах было „навучыць гадунцоў гутарыць і пісаць хараша й наўчона (apte docteque), чытаць лацінскіх і грэцкіх аўтараў, а такжэ ўзгадаваць добрыя звычаі. Вучэньне клясычных аўтараў павінна было памагчы вырабіць харошы стыль, але „нічагусенькі балей, нічагусенькі далей“... Лацінскі язык лічыўся гэтулькі важным і канечным у праграме вучэньня, што езуіты вымагалі ад сваіх гадунцоў ужываць яго на’т у прыватных гутарках замест роднага языка. Вучачы сваіх гадунцоў лацінскага языка, езуіты срога дзяржаліся прынцыпу: „lege, scribe, loquere“.

У гэтых беларускіх школах не выганялі із школьнае практыкі й роднага (беларускага) языка; ён толькі быў адсунены на апошні плян. У так званым годнім лічбазданьню езуіцкага ордэну, аб стане Полацкае езуіцкае колегіі, паміж іншым, гэтак сказана: „дзеці Русіноў (праваслаўных — *Рэд*), хоць маюць бацькоў, каторыя адхінаюцца ад усяго лацінскага, але тым, што вучацца рускага пісьма (ruthenas litteras), прывыкаюць да навукаў (litteris) і абрадаў лацінскіх“... У езуіцкіх школах беларускіх вучыліся й польскую мову. Прынамся магчыма цьвердзіць гэта аб Нясьвескай і некаторых іншых колегіях. Гэта будзе тым балей зразумела, што беларуская шляхта, у ролі асьветнікаў каторае езуіты выступалі, ужо ў тым часе была ў ладнай меры спалячана.

Затое вельмі нізка ў езуіцкіх школах стаяла вучэньне позытыўных і точных навукаў. Навет арытмэтыка спачатна ўходзіла ў праграму толькі філёзофскае клясы. Адно ў 1614 г.

арытмэтыку сталі вучыць і ў ніжэйшых граматычных клясах, але не як самастойны прадмет. Яна ўходзіла ў склад агульнага курсу „Eruditio“, што была свайго роду навуковай энцыклёпэдыяй, вучанай звычайна ў вольны час.

Філёзофскія курсы праходзілі ў працягу 3-х год, па 2 гадзіны ў дзень. У першым годзе вучылі лёгіку, на другі год фізыку і на трэйці год мэтафізыку. Памогаю служылі клясычныя творы Арыстотэлевы. Вучыцель пры гэтым меў срогі загад не выказаваць якіх-колечы новых паглядаў і не закранаць новых пытаньняў. А ў філёзофскіх клясах праходзілі па Эўкліду матэматыку й стэрэомэтрыю; давалі некаторыя веданьні з географіі.

Багаслоўскі курс быў чатырагодні, на ім вучылі вылучна багаслоўскіх навукаў. Усё вучэньне на гэтым курсе разьлічана было на тое, каб прыгатаваць будучых місыянэраў і аполёгетаў каталіцтва. Што датыча істоты пэдагогікі ў езуіцкіх школах, дык аб гэтым можна сказаць наступнае. Галоўная мэта яе — узгадаваньне ў вучаньніку набожнасьці. Уся сыстэма вучэньня й узгадаваньня, паводле ордэнскіх констытуцыяў, вяла запраўды, як у школе, так і вонках яе, да гэтае асноўнае мэты. Мэханічнае, але срогае да дробязі выпаўненьне рэлігійнага рытуалу, акуратнае бываньне ў касьцёлах, учасьце ў рэлігійных брацтвах (апошняе асабліва практыкавалася пры беларускіх колегіях) і, напасьледак, усялякія царкоўныя процэсіі й самабічаваньні, павінны былі, на думку кіраўнікоў і ідэёлёгаў езуіцкіх школаў, памагаць удачы гэтага асноўнага заданьня. Навет напад на неезуіцкую школу, евангелічны збор або праваслаўную царкву, уважалі езуіты за ўчынак любы Богу.

Рэзультаты гэткае сыстэмы пэдагогічнае праявіліся вельмі борзда. Проф. М. Каяловіч аб гэтым кажа наступнае: „Ніколі й нідзе ў сьвеце шкаляры й самі езуіты ня мелі гэткае сілы, як у езуіцкіх школах. Вучаньнікі дзяржалі ў руках мескія ўлады, здольныя былі ўзяць горад (крэпасьць), зьнесьці з віду зямлі царкву, дом і потым ціха сядзець над лацінскай граматыкаю, з пакорай выцягаваць руку езуіту дзеля бацькаўскіх удараў лінейкай па далані“ *).

Але калі вонках школы вучаньнікам давалі волю, дык у сьценах ейных была вялікая дысцыпліна. У езуіцкіх конвіктах або бурсах быў чыста манастырскі, срогі рэжым. Балей свабоды давалі вучаньнікам, жывучым на прыватных гасподах. Дзеля заахвочаньня да вучэньня былі адумысловыя надгароды. Вучаньнікі, што асабліва добра вучыліся,

*) Литовская церковная унія, II, бал. 104.

даставалі розныя тытулы пачэсныя: дэкурыонаў, цэнзараў, прэтараў і, навет, імпэратараў. Усе гісторыкі езуіцкага ордэну згодна адцемлююць вялікае захапленьне езуіцкіх гадунцоў разьдзелам надгародаў і іншых адзнакаў. Вельмі часта іх даставалі дзеці багатых паноў, аб ласцы каторых езуіты асабліва рупіліся. Дзеля дысцыпліны за нарушэньне школьнага парадку каралі на'т фізычна, хоць паводле статуту фізычныя кары маглі быць адно ў надзвычайных прыпадках. Ужывалі так-жа карцар, а апошняю караю было выдаленьне непапраўнага вучаньніка з школы *).

Напасьледак скажам колькі словаў аб значэньню езуіцкіх школаў дзеля развою асьветы ў Беларусі наагул. Добра ці не стаяла асьвета ў гэтых школах, але ўсё-ж т'кі трэба прызнаць, што езуіцкія школы паднялі асьвету ў краю. Апрача закладаньня собскіх школаў, езуіты прымусілі энэргічней заняцца школьнаю асьветаю й прадстаўнікоў іншых вераў. Мала таго, яны прымусілі апошніх парупіцца аб якасным палепшаньню школьнае сыстэмы, пашырэньню праграмы і г. д. Аддаляючы сваіх супараў пры помачы разьбіваньня іхніх школаў або перашкаджаючы ставіць новыя, езуіты, ведама, і запынялі школьную справу ў Беларусі. Монополізуючы ў сваіх руках школьную асьвету, езуіты, прыкл., прычыніліся да закрыцьця Нясьвескае школы протэстанцкае, сьціснулі піяраў, не дазвалялі вуніятам - базылянам аднаўляць іхнія школы, разрушаныя ў маскоўскую вайну і г. д. У дадзеным прыпадку іграла ролю ўжо ня ідэйнае пытаньне царкоўнае, але проста прынцып конкурэнцыі.

---

*) Пры выкладзе нутраное арганізацыі езуіцкіх школаў мы карысталіся гэткімі памогамі. К. В. Харлампович, цыт. праца, бал. 79—118; артыкулам М. Ястребова, Иезуиты и их педагогическая деятельность в Польше и Литве (Труды Киевск. дух. акад. 1869 г. I, 260—274 бал.); А. Демьянович, Иезуиты в Западной России в 1569—1772 г. СПБ, 1872, асабліва з 92—101. Былі прынятыя пад увагу й агульныя нарысы з гісторыі пэдагогічных сыстэмаў, прыкл., К. Раумер, Исторія воспитанія и ученія от возрожденія классицизма до нашего времени СПБ, 1878, К. Шмидт, Исторія педагогики II й III т. (пераклад Цымэрманаў) і нек. іншыя.

# Гісторыя беларускага мастацтва.

## Курганныя старажытнасьці Беларусі.

### I.

### Агульны характар беларускае курганнае культуры. Вонкавыя сувязі Беларусі ў курганную эпоху і жаролы чужаземных уплываў. Хронолёгія беларускіх архэолёгічных памяткаў.

(Гл. № 1 „Нёмна“).

Вялізарны архэолёгічны матар'ял курганных старажытнасьцяў, знойдзеных у межах этнографічнае Беларусі, не зьяўляецца, зразумела, памяткамі Беларускімі ў сэньсе этнографічным. У лепшым выпадку гэты матар'ял — памяткі старадаўных славянскіх продкаў пазьнейшага беларускага народу, у значнай частцы не зьяўляецца прадуктам мясцовай вытворчасьці.

Але гэты матар'ял усё-ж мае вельмі важнае дапамагаючае значэньне для вырашэньня асноўнай задачы — вывучэньня гісторыі мастацкіх формаў Беларусі ў гістарычны пэрыод яе быцьця.

Справа у тым, што найранейшая культурная гісторыя кожнага краю заўсёды кладзе свой адбітак на ўсё далейшае культурнае яго разьвіцьцё.

Нават — пры тых шматлікіх чарговых зьменах, напластаваньнях, мяшаньнях розных тыпаў культураў, што прыносяць у край featuresрознага этнографічнага складу элемэнты, — заўсёды наглядаецца ў ім ведамае творчае імкненьне — лучыць гэтыя розныя культурныя элемэнты, уношаныя ў край сталымі вонкавымі сувязямі і жаролами уплываў, у ведамую сынтэтычную суцэльнасьць.

Такім шляхом навет неаднолькавая ў сваім насяленьні тэрыторыя з часам адасабляецца ў самастойную й суцэльную ў сваім культурна-этнічным характары адзінку.

Дагістарычная мінуўшчына Беларусі, ня гледзячы на грунтоўныя досьледы архэолёгаў, прадстаўляе яшчэ шмат цёмнага для навукі.

Аб этнографічным складзе старадаўняга насяленьня Беларусі ў навуцы таксама няма яшчэ згодных паглядаў.

Але можна сьцвердзіць ужо ў курганную эпоху блізу на ўсей тэрыторыі Беларусі — пры ўсіх розьніцах яе этнографічных элемэнтаў (славянскіх, літоўскіх, латыскіх) — выразную аднолькавасьць і суцэльнасьць культурна-архэолёгічнай характэрыстыкі, якая выдзяляе гэтую тэрыторыю ў самастойную архэолёгічную групу — на аснове супольнасьці асноўных формаў пахавальнага рытуалу і агульнай падобнасьці тыпаў курганных знаходкаў.

Проф. Сьпіцын называе гэтую групу „Крывіцкай“ — паводле галоўнага племені насяленьня гэтай тэрыторыі.

Да ведамага мамэнту этнографічныя розьніцы, як бачым, ня йгралі вялікай ролі ў агульным характары курганнае культуры Беларусі, якую таму можна назваць **старабеларускай** культурай, хаця толькі ў тэрыторыяльным, а не этнографічным значэньні слова.

Культура гэтая, як думае большасьць дасьледчыкаў, была тады яшчэ мала самастойная, прадметы яе, магчыма ў большасьці, былі чужаземнага паходжаньня.

Але гэтая чужаземнае паходжаньне не пазбаўляе іх ведамага значэньня для ўстанаўленьня схэмы асноўных стылістычных мамэнтаў, тыповых і характэрных для культуры й мастацтва гэтае дагістарычнае пары ў жыцьці й творстве беларускае тэрыторыі. Бо-ж — з аднаго боку, самы выбар тых, а ня іншых прадметаў азначаўся ня толькі прыпадковым прывозам іх у край, але пэўне-ж у вялікай меры і вымогамі смаку мясцовага насяленьня, патрэбамі мясцовага рынку, на якім зручна прытарнаваныя да яго вымогаў тавары мелі большы ход ды перавагу ў куплі, а далей — і большае пашырэньне ў краі дый большы ўплыў на разьвіцьцё стылю ў самастойным мастацкім творстве.

З другога боку — няма асноваў прыняць у цэласьці думку проф. Сьпіцына і іншых дасьледчыкаў, адкідаючых магчымасьць быцьця ўжо ў гэную эпоху ўсялякае мясцовае вытворчасьці. Наўперад цяжка знайсьці наагул належны крытэрый, каб адрозьніць прывозны выраб ад мясцовага, каторы мог насьледаваць і форму, і тэхнічную апрацоўку, і матар'ял першага. Такія прадметы якраз і трапляюцца сярод інвэнтара беларускіх курганоў. Дзеля гэтага бліжэй да праўды будзе прызнаць, што—побач з прадметамі прывознага паходжаньня, былі тады ўжо й прадметы мясцовага вырабу, якія пры гэтым мелі характар ня толькі простага перайманьня чужаземных узораў, але, што вельмі важна — і некаторае самастойнае пераробкі, у васнове якой пэўне-ж

эставаліся сьпярша занесеныя сюды чужаземныя стылістычныя формы.

Вывучэньне гэтых прадметаў чужаземнага ўвозу, высоўвае, зразумела, вялізарнай важнасьці пытаньне — аб вонкавых сувязях дый чужаземных уплывах на насяленьне тэрыторыі Беларусі ў курганную эпоху. Точнае разьвязаньне гэтага пытаньня, адна з важнейшых задачаў беларускае археолёгіі, нажаль, пры цяперашнім стане навукі — яшчэ ў ваўсей поўні немагчыма.

На аснове ведамых пакуль што навуцы фактаў, можна даць схэму гэтых вонкавых сувязяў ды ўплываў толькі ў найагульнейшым нарысе.

---

Асноўныя замежныя культурныя сувязі старавечнае беларускае тэрыторыі азначаліся наўперад вялікімі гандлёвымі шляхамі, што перяразалі гэтую тэрыторыю, далей — характарам і абыймом яе ўласнага гандлю і, ўрэшце, шляхамі колёнізацыйнага руху славянскіх плямён.

Географічнае палажэньне Беларусі, як месца злучэньня вададзелаў найвялікшых рэчных сыстэмаў вялікае ўсходняе нізіны — басэйнаў Нёмну, Дзьвіны, Дняпра й Волгі — зрабіла яе раздарожжам найважнейшых у тыя часы вадзяных шляхоў, каторыя лучылі паміж сабой вадазборы ўсіх трох мораў: Балтыцкага, Чорнага й Каспійскага, навакол якіх гнязьдзіліся важнейшыя цэнтры тагачаснае культуры.

Дзьвінска-Валжанская сыстэма ствaрала вялікі вадзяны шлях, што лучыў Заход з Усходам; „вялікі вадзяны шлях з Варагаў у Грэкі“ лучыў паўночную Эўропу з яе паўднёвым Усходам.

Зразумела — усе культурныя ўплывы, што наагул ішлі гэтымі шляхамі ў Беларусь, мелі розную сілу й значэньне ў розныя эпохі.

Роля „вараскага“ вадзянога шляху ў курганную пару звычайна залішне павялічваецца ў літаратуры: з поўначы йшлі ў Беларусь — шляхам вараскага ваенна-гандлёвага руху — вырабы скандынаўскае культуры, тады яшчэ даволі беднае.

Больш важную ролю йграў тады гэты шлях у вадваротным кірунку—пры пераходзе заходне-эўрапэйскіх і ўсходніх прадметаў транзытам праз Беларусь у Скандынавію. Толькі з X веку ўзмацаваліся ўплывы Скандынаўі на Беларусь.

Таксама залішне павялічаны ў літаратуры ўплывы на Беларусь і з боку бізантыцкага паўдня ў гэтую курганную пару.

Толькі з XI ст. вырабы і стылістычныя формы з Бізантыі сталі прасочвацца ў Беларусь. Да XI ст. яны даходзілі па дняпроўскай сыстэме не далей Кіяўшчыны ды Чарнігаўшчыны. У курганных знаходках у Беларусі прадметаў бізантыцкага характару зусім нямашака. У скарбах назіраюцца толькі часам рэдкія формы бізантыцкіх бранзалетаў.

Большая частка беларускае старасьвеччыны, у тэй лічбе й тая, якой такія, здавалася-б, знаўцы, як акад. Кондакоў, ці І. Толстой, прыпісвалі бізантыцкае паходжаньне, сапраўды — ў сваіх тыпах, у большасьці прыпадкаў, выяўляюць беспасярэднюю сувязь з Усходам (пярэдняй Азіяй) — без бізантыцкай апрацоўкі ўсходніх першаўзораў.

Былі тады розныя шляхі пераходу гэтых усходніх першаўзораў на заход наагул, часткава ў Беларусь.

Апрача шляху, што йшоў праз Пэрсію, Сірыю на Бізантыю, для Беларусі тады быў асабліва важны вышменаваны шлях — праз Прыволжа, Прыдоньне, з заснаванымі тутака гаспадарствамі Хазарскім і Баўгарскім, і далей — праз краі фінскіх плямёнаў—у славянскія землі. Гэтым шляхам ішла на Ўсход ды паўднёвы Усход славянская, пераважна крывіцкая (беларуская), колёнізацыя, а пазьней вёўся актыўны гандаль з боку Беларусі з багатым Прыволжам, з узьбярэжжам Касьпійскага мора дый далей — праз Каўказ і Пэрсію — з Сярэдняй Азіяй, а навет — з Далёкім Усходам аж да самога Кітаю...

Пачатак гэтых зносінаў трэба, можа, аднесьці да VI—VII ст. У кожным прыпадку — у другой палове IX ст., як сцьвярджае Ібн-Хордабдэ ў сваёй „Кнізе шляхоў і гаспадарстваў", Славяне вялі ўжо жывы й сыстэматычны гандаль з Ітылем (сталіца Хазарыі), з Дамаскам і Багдадам.

Славянскія гандляры, пераважна Крывічы, пэўне-ж, побач з варагамі, везьлі на ўсход пераважна хутры дый магчыма, вырабы заходне-эўрапэйскага паходжаньня. З Усходу вывозілі яны араматы, дарагое каменьне ды тканіны, залатыя й сярэбраныя вырабы ювэлірнага мастацтва. Гэтыя гандлёвыя зносіны працерабілі шляхі, па каторых пачаўся прыток у край прадметаў дэкарацыйнага мастацтва дый адпаведных орнамэнтальных формаў — з Усходу. З другога боку — на Ўсход — шляхом сьпярша, як сказана, колёнізацыі, пасьля гандлю — Славяне заносілі ў фінскія краі, а пасьля й значна далей заходнія вырабы й формы а пэўне-ж, і свае мясцовыя іх варыянты й пераробкі.

*С.*

(Далей будзе).

П. СЯРГІЕВІЧ.

# Аб беларускай народнай разьбе.

З чаго можна больш чытаць які быў дух чалавека ў мінулых стагодзьдзях, калі не з мастацтва? Толькі праз прызму мастацтва можна найлепш пазнаць імкненьне народу: ці ён быў ваяўніча настроены, ці знаходзіўся ў глыбокай рэлігійнай экстазе, або любаваўся ў дворскай элеганцыі і роскашы.

Мастак, абдараваны чуткай натурай, адбівае ў сваіх творах акружаючае яго жыцьцё народу данага веку; схап-



Бел. народная разьба ў дрэве. (Музэй ім Ів. Луцкевіча).

ляе яго думку, лятуценьні і заковывае ў нясьмяротны свой твор як дух эпохі. Ня трэба тут казаць аб долі нашага народу, якую перажываў у вапошніх стагодзьдзях; даволі глянуць на фігуру сумнага Хрыста, каб вычытаць цяжкое ярмо жыцьця чалавека. Народны гені з іскрай Божай жыў пад страхой і знасіў цэлыя вякі бясправўя і гвалты, разьбуючы сумны твар Хрыстоў, каторы плакаў над бяздоліцай свайго

народу. Такія фігуркі можна бачыць на крыжох прыдарожных, у капліцах, цэрквах і касьцёлах. Шмат ёсьць сабрана ў музэях віленскіх і ковенскіх. Сярмяжны мастак-самавучка ня ведае які скарб ён па сабе пакінуў, так як чалавек ня ведае аб падсьведамых мамэнтах у яго творстве. Нязнаны шырэйшаму сьвету жыў ён у глушы вясковай, працуючы ў полі за сахой, а ў вольны час разьбаваў сваю думку, напяяную ў душы.

Прыгледзімся-ж бліжэй да гэтых памяткаў нашае мінуўшчыны, прымітыўных у сваей форме і руху, каторыя можна прыраўнаваць да памяткаў старавечнага Эгіпту і архаічнай Грэцыі. Разьбяр умела перадаў характар матар'ялу, у каторым фігура была зроблена. Разьбаваньне пераважае з дрэва, як бяроза, асіна, сосна, клён, ясень і інш., а такжа з касьці, або каваныя з медзі, звычайнай бляхі і каменя, стылізавана лініямі паверхнасьць вопраткі і паліхрамавана адпаведнымі колерамі. Як добра захаваны рытм і сынтэза ліняў прымітыўнае формы, як удала перададзена псыхалёгія руху, паказуючая сум і задуму!

У ваўсіх галінах мастацтва XX век стараецца найсьці прастату і сынтэзу формы. Як-жа пахіліцца ён перад скромным і няхітрым творам, каб аддаць яму належнаю чэсьць!

## Ой, бяда-ж мая.

Народная песьня. Мэлёдыю і словы запісаў А. Стэповіч у Сьвянцяншчыне.




*Не хачу піці, ані я есьці,*
*Што не для кога тугі равьнесьці.*
*Мая матуля перабарліва*
*Выбрала зяця, што мне ня мілы.*
*Касіць ня ўмее, араць ня сьмее,—*
*Хто-ж маладой мне поле засее?*
*Засею поле хоць канаплямі,*
*Забарaную хоць вераб'ямі.*

*Засею поле хоць пшаніцою,*
*Забарaную хоць курыцою.*
*Пшаніца зсохла, курыца здохла,*
*А канапелькі ўсё зеляненькі.*
*А канапелькі ўсё зеляненькі,*
*А я малада ўсё маладзенька.*

Д-р Я. СТАНКЕВІЧ.



# Дзеля абароны беларускага языка.

У № 1 з 1932 г. час. „Беларускі Звон" п. А. Н. ў рэцэнзі „Нёмна" ледзь не палову месца пасьвяціў на закіды мне, хоць жадны артыкул ня быў падпісаны маім прозьвішчам. П. А. Н. уважае, што ён „мусіць затрымацца на тым, што зьяўляецца вынікам анархічна-рэфарматарскае дзеяльнасьці сябры Рэдакцыі грам. Я. Станкевіча". Дзякуй п. А. Н. за „назначэньне" мяне ў сябры Рэдакцы, бо я толькі супрацаўнік „Нёмнаў".

П. А. Н. закідае Рэдакцы „Нёмна", што яна „сталася памагальніцай гр. Я. Станкевічу ў анархізаваньні беларускага правапісу, варочаючы тых, хто вучыўся паводле беларускіх граматык, прызнаных Беларускай Акадэміяй Навук, у стан „паўторнай" бязграматнасьці". Пад гэтымі „беларускімі граматыкамі", відавочна, трэба разумець граматыку Б. Тарашкевіча, бо толькі паводле яе вучацца ў Зах. Беларусі ў маленькай лічбе школаў. Што да апробаты граматыкі Тарашкевічавае Беларускай Акадэміяй Навукаў у Менску, дык гэная апробата ня ё такой поўнай, як гэта прадстаўляе сабе п. А. Н. Прыкладам, паводле Акадэміі злуч *і* й *і* пачынаючае слова не пераходзіць на пісьме ў *й* (нескладовае); імёны чужыя на —*іст*—ъ паводле Акадэміі скланяюцца так, як прыметы (арганістага, комуністага і г. д.), а паводле Б. Тарашкевіча яны скланяюцца як звычайныя наз. імёны (комуніста,—у і г.д.). Хоць што да першага прыкладу нельга згадзіцца з Акадэміяй, але наагул трэба лічыць гэтае няпоўнае прызнаньне Акадэміяй граматыкі Тарашкевічавае добрым, бо нельга абмежыць беларускую мову граматыкай для пачаткавых школаў, у каторай фонэтыка, морфолёгія, правапіс, сынтакс ды шмат „практыкаваньняў" зьмешчаныя на 132 бал. фармату малое 8-о. Палажыць у такі „Прокрустаў ложак" нашую мову, значыла-б пахаваць яе.

Дык-жэ граматыка Тарашкевічава не абыймае ўсіх асаблівасьцяў беларускае мовы. Не абняты ёю — з вынняткам аднае — і тыя асаблівасьці, за каторыя так „выцяў" па мне п. А. Н.

1. Гэтак не сказана ў ёй нічагусенькі, як ужываць чужыя словы на — *ia* (—*io*), знач., ці будзе, прыкладам, Хвядося, Настася ці — Хвядосія, Настасія; опэраца ці опэрацыя; Юля, Аміля ці Юлія, Амілія; губэрня, цырамоня, Юстыня ці губэрнія, цырамонія, Юстынія; Алімпа, Яўхіма ці Алімпія, Яўхімія. У варт. „Да вымовы й правапісу чужых словаў"

„Родная Мова“, бал. 18, я паказаў, што маюць ужывацца хвормы, пастаўленыя гэтта на першым месцу. Менаваны артыкул ё адзінай „граматыкай“ аб прыведзенай катэгорыі словаў. Калі п. А. Н. не згаджаецца з прыведзенымі гэтта й гэнам зьявамі беларускага языка, дык ён мусіў-бы зьбіць гэны артыкул, а тым часам ён аб апошнім на'т не ўспамінае, *ы* ў „цырамоня“ дзеля таго кажам і пішам, дзеля чаго маем *ы*, *і* так-жа ў словах „цырата, кірунак, кірмаш, кілішак“— пад уплывам таковых словаў сваіх, як „чырвоны, чыркаць“ і пад., як, з другога боку, маем „арышт, рыштант“ паводле сваіх „дрыжэць, крышыць“ і пад,

2. Другі закід ё за хвормы прыраўн. ступені „вышшы, ніжшы, глыбшы“, бо яны быццам — польскія. Праўда, у польскай мове ё часткава такія хвормы, але гэта ня значыць, каб не маглі быць яны так-жа чыста беларускія. У беларускім языццэ ё дваякія хвормы прыр. ступені — на—*шы* й—*ейшы*. Б. Тарашкевіч на бал. 87 свае граматыкі выданьня 1929 г. прыводзе абедзьве хвормы, але ня кажа — мо' ня ведае — калі каторая ўжываецца. Але я дасьледаваў і знайшоў, што хворму прыр. ступені на — *ейшы* маюць тыя прыметы, у каторых перад канчаткам ё *н* з папярэднім сугукам альбо з *ў*, *й* (роўны — раўнейшы, дурны — дурнейшы); гэтую-ж хворму маюць прыкметы, у каторых перад канчаткам ё балей двух сугукаў (борзды — баржджэйшы, быстры — быстрэйшы); а ўсе іншыя маюць — *шы* (малады — малодшы, дужшы, бліжшы і г. д.). З гэтым згаджаюцца ўсе прыклады із старых памяткаў ды ў вялізарнай большасьці з цяперашняе мовы народнае. Прыр. Я. Карскі, II — 2, бал. 56 й 60; прыр. яшчэ С. Некрашэвіч, Мова кнігі Касьяна Рымляніна Ераміты. „Працы Клясы Філёлёгіі“, т. I, бал. 105.

3. Для імёнаў ніякага роду з мяккім ці ацьвярдзелым канчаткам, праўда, у Тарашкевіча паказаны ў месным склоне канчатак -*і*, -ы, але ў старых памятках і ў большасьці народнае мовы маем -*ю*, -*у* (у сэрцу, пры здарэньню і г. д.). Прыр. Я. Карскі, II—2, бал. 177—8 і С. Некрашэвіч, ibid., бал. 101. Ясна, што ў літаратурнай мове балей адпавядае хворма другая.

4. Маем яшчэ закід проці „*ўжэ*“, што быццам прыбліжае да мовы расейскае. У „ўжо“ знаходзім *о* на месцу націсьненага *е* па мяккім (цяпер ацьвярдзелым) сугуку ***на канцы слова***, калі звычайна беларуская мова знае пераход націсьненага *е* ў *о* па сугуку (цяпер або калісь) мяккім перад цьвярдым; дык калі ў іншай часьці народнае мовы ё так-жа хворма „ўжэ“, то гэтая апошняя мае прынамся гэткія правы грамадзянства, як і „ўжо“. Ніхто не кіраваўся збліжэньням ці аддаленьням ад мовы маскоўскае, але, калі

ўжо аб гэтым пайшла гутарка, дык трэба зацеміць, што хоць у расейскай мове літаратурнай ё „уже", але ў народнай „ужё", а гэта ў кожнай мове найважнейшае.

5. Што да ўжываньня „сяньня, сягоньня" (два *нн*), замест „сядня, сягодня", дык аб гэтым, як і аб „ужо", Б. Тарашкевіч ані слова ня кажа. Затое ясна кажа навука. Паймення: *дн* пераходзе ў *нн* у мове расейскай (у паўночна-расейскім нарэччу, каторае запраўды прадстаўляе расейскую мову), там заўсёды маем „онна, ронной, сренней, сёвоньня" і п. У мове беларускай такі пераход знаходзім адно ў вельмі абмежаных мясцовасьцях дый то толькі ў некаторых словах. Крыху шырэй ужываецца „сягоньня", але балей „сягодня, сядня" і п. (з *д*). Дык ясна, што трэба ўжываць „сягодня" і г. д., як ужываныя ў большасьці беларускае мовы народнае ды пры тым згодныя з агульна-беларускай асаблівасьцяй — непераходу *дн* у *нн*.

Апошняй асаблівасьцяй канчаюцца зробленыя мне п. А. Н. закіды.

Асаблівасьць, паказаную гэтта пад п. 1., ужыў адзін я ў вартыкулах — арыгінальным і перакладным — дадзеных мною ў „Нёман"; асаблівасьці, адцемленыя тутака ў п. п. 2—5, ужываліся й іншымі супрацаўнікамі й сябрамі Рэдакцы, а не адным мной.

Спадзяюся ад п. А. Н. гэткага апраўданьня: праўда, Б. Тарашкевіч аб 4-ох з 5-ёх менаваных зьяваў нічога ня кажа, але ён сам ня ўжывае тых хвормаў, проці каторых выступіў А. Н. Гэткі аднак пагляд быў-бы вельмі ня пэўны, калі ня зусім някрытычны. Як ведама, Б. Тарашкевіч вельмі мала піша. Апрача таго, як хто можа ўжываць тое, чаго ня ведае? У сваёй граматыцы Б. Тарашкевіч часта практыкаю пярэча сваім правілам (гл. „Родная Мова", бал. 167—168). Але мала гэтага, у Б. Тарашкевіча ё не малыя супярэчнасьці й у самых правілах. Гл. „Родная Мова", бал. 88 й 89.

Далей, у граматыцы Тарашкевічавай не адцемленыя такія зьявы беларускае мовы, каторыя напэўна прызнае ды ўжывае й сам п. А. Н. Гэтак нямашака там канчатку — *э* ў месным скл. адз. л. ў іменаў ніякага роду з *к* перад канчаткам, а тым часам усе кажам — у малацце і нек. інш. Не адцемлены склады *ры*—, *лы*— пад націскам (ён крышыць, прысак, плытнік), склады *-ві-* (а ня -ве- — зьвінець), склады *-ір-*, *-ыр-* (чырвоны, тырчэць, міргаць),ацьвярдзеньне *ль* перад *ц* (колца). Аб усім гэтым гл. „Родн. Мова", бал. 139—142. Ё й такія правілы й прыклады ў граматыцы Тарашкевічавай, з каторымі ніхто з пішучых пабеларуску, а ў тэй лічбе й наш срогі рэцэнзар, не згаджаецца. Хто

скажа *на зарэ* замест на зары (бал. 81 грам. Тарашкевіча), хто ўжыве *паўчварта* (бал. 88, 90), *ту, саму* 93, зам. тую самую!?

Але п. А. Н. ня ўжывае на'т таго, што ё добрае ў Б. Тарашкевіча. Гэтак апошні ў новай рэдакцы свае граматыкі кажа пісаць „літаратура“ (з *а* па *т*) 97, а п. А. Н. у рэцэнзі „Нёмна“ піша „літэратура (з *э*); Тарашкевіч піша „правапіс“, п. А. Н. таксама, але адначасна „часопісь”; Тарашкевіч па прыймені *у* перад пачатным *а* (старым або з *о*) піша *в* (агонь, але — у вагні), п. А. Н. гэтага не прызнае; і іншыя розьніцы ё паміж А. Н. і Тарашкевічам.

Я гэтта так разгледзіў уважна ўсе закіды п. А. Н., якбы яны былі зробленыя ў добрай волі. З разгледжанага аднак відаць, што гэтае добрае волі, відавочна, ня было ў п. А. Н.

## Культурная хроніка.

**З Т-ва Прыяцеляў Беларусаведы.** За мінулы месяц у Т-ве Прыяцеляў Беларусаведы адбыліся дзьве навуковыя зборкі: 24-І-32 з рэфэратам гр. Г. Шырмы на тэму: „Галоўныя рысы мэлёдыяў беларускіх народных песьняў“ і 31-І-32 з рэфэратам гр. Д-ра М. Чарнецкага на тэму: „Войны за Смаленск“.

**З Беларускага Навуковага Т-ва.** Апошнім часам Бел. Навуковае Т-ва ў Вільні зарганізавала цыкль навукова-папулярных лекцыяў. З прачытаных ужо, асабліва заслугоўвае на ўвагу лекцыя з дня 7-ІІ-32, гр. А. Луцкевіча на тэму: „Пясьнярка-барацьбітка“. (Аб жыцьці і творстве „Цёткі“).

---

ГРОШЫ АТРЫМАЛІ: **Ад Белар. Навуковага Т-ва — 83 зал.; ад гр. А. Будзькі — 20 зал.; ад гр. гр. Броўковіча, М. Габрукевіча, Я. Вількоўскага — па 7 зал.; ад кс. Рэшэця 5 зал.; ад Д-ра Грынкевіча, М. Елінскага, Юрага Сабалеўскага — па 4 зал.; ад Казлоўскага, М. Шацкага, М. Вершыніна — па 3 зал.; ад В. Клімкі 2 зал. 25 гр.; М. Нагулевіча 2 зал. 20 гр.; ад М. Хруцкага, Юл. Мурашкі, Я. Пятроўскага — па 2 зал. Усім ім вялікае падзяка.**

*ВЫДАВЕЦТВА.*

---

**ЗЬМЕСТ:** 

---

Выдавец: Адвард Будзька. Рэдактар: Пётра Сяргіевіч.

Друкарня ім. Фр. Скарыны. Вільня, Завальная вуліца 6—10.

